# ULTIMATE X-MEN®

ISSUE 33

ВЯРТАННЕ КАРАЛЯ. ЧАСТКА 7




MILLAR
KUBERT
MIKI

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

MARVEL®

WWW.MARVEL.COM



Сучасныя
Людзі-Ікс
№33 (2001)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей




# ВЯДЗЬМАР. ДОМ СА ШКЛА

(Dark Horse, 2014)

ужо даступны на www.patreon.com/comicsby



**Tobin, Querio.**
Вандруючы каля Чорнага леса Геральт сустракае самотнага паляўнічага. Аказалася, што той калісьці аўдавеў, але яго жана засталася ў свеце жывых. Уцякаючы ад лесавіка вядзьмар са сваім новым сябрам трапляюць на Дом са шкла...










# RETURN OF THE KING

## PREVIOUSLY IN ULTIMATE X-MEN:

Людзі-Ікс змаглі перамагчы Магнета. Але Майстар Магнетызму паспявае ўзарваць атамны рэактар у Фларыдзе. Марвел выклікае Сілу Фенікса. З яе дапамогай яна нейтралізуе дзеянне выбуху і выратоўвае мільёны чалавечых жыццяў. Між іншым Цыклоп выключае з каманды Расамаху.

Перамога над Магнета мяняе пазіцыю грамадства да Людзей-Ікс. Цяпер на іх глядзяць не як на монстраў, а як на выратавальнікаў чалавецтва. Улады вырашаюць выкарыстоўваць мутантаў у мэтах нацыянальнай бяспекі. Выпускнікі Інстытута Ксаўе змогуць супрацоўнічаць з "Абаронай" і іншымі антытэрарыстычнымі арганізацыямі ва ўсім свеце. Мара прафесара Ксаўе пра мірную інтэграцыю людзей і мутантаў пачынае спаўняцца...




Stan Lee presents:

# ULTIMATE X-MEN

Mark Millar story
pencils/breakdowns Adam Kubert
Danny Miki inks/finishes

Dave Stewart colors
Chris Eliopoulos letters
Dolly Setton assistant editor
Stephanie Moore assistant editor
Nick Lowe assistant editor

C.B. Cebulski associate editor
Ralph Macchio editor
Joe Quesada editor in chief
Bill Jemas president & inspiration

Яго звалі Магнета, Майстрам Мегнетызму. Але ён больш быў падобны на загнанага звера, які кідаўся ў сваёй жудаснай пластыкавай клетцы.

Схаваны ў сакрэтным штабе супергерояў, ён быў падобны здані, які быў пазбаўлены сваёй сілы. Так працягвалася да тых часоў, пакуль яго вартавыя кіраваліся залатым правілам.

Лекары, адвакаты, тэхнолагі, прыбіральшчыкі, кухары, псіхіятры і ахоўнікі сачылі за тым, каб ён не дакранаўся да металёвых прадметаў.

Усё было вельмі проста.

Але нават у самым кашмарным сне яны не маглі ўявіць, што адзін з ахоўнікаў скрые наяўнасць металічнага стрыжня ў яго ў наге.


AAAARRGH!


Далей падзеі развіваліся так хутка, што былыя вартавыя нават не зразумелі, што здарылася, пакуль іх трупы не ўпалі на падлогу з цвёрдага пластыка.
Ахоўныя сістэмы спрацавалі своечасова, але што яны маглі зрабіць супраць чалавека, здольнага перамяшчацца ўнутры ўласнага магнітнага поля?


Першым быў пакараны Капітан Амерыка. За тое, што ён выступаў супраць Магнета. Капітан быў парэзан на кавалкі і памер в жудасных пакутах.


Магнета расплюшчыў Тора ў мякіш, загарнуўшы яго ў даспехі Жалезнага чалавека. Потым ён пакінуў іх і звярнуў увагу на вялікі свет, які распасціраўся перад ім.

Вы ўяўляеце? Кожная машына, кожны грузавік, кожны кавал жалеза, кожная шпілька сталі зброяй супраць гэтых жаласных механ з мяса і касцей.

Нічога не магло спыніць яго... Ні паліцыя, ні флот, ні нават авіяцыя.

За адзін дзень Магнета знішчыў усё, што Усявышні стварыў за сем дзён.

Ацалеў толькі невялікі кавалак Зямлі. Напужаныя армагедонам людзі з ахвотай згадзіліся служыць новаму гаспадару ў абмен на магчымасць застацца жывымі.

Іх прабачэнні прынеслі яму асаблівае задавальненне. Нават Чарльз Ксаўе і Людзі-Ікс усхвалілі яго.

З руінаў ён стварыў новы выдатны свет і стаў ім валадарыць.

Усе схілялі перад ім галавы, нават людзі будучыні трапяталі пры думках аб яго велічным магнетызме.












*У лісце пераказваецца гісторыя, напісаная на папярэдніх старонках комікса.




Вось мы і сустрэліся, зноў. Эрык...


Так, Чарльз, сустрэліся.


Бачу, многія чулыя людзі пішуць табе.
Прыемна даведацца, што нават тэрарыст-чалавеканенавіснік атрымлівае **словы падтрымкі** ў цяжкі для яго час.


Гэта не проста словы падтрымкі, Чарльз. Да мяне пры-ходзяць самыя розныя пасланні. Ад апавяданняў маіх прыхільнікаў да прапаноў шлюбу ад самотных жанчын.
Кажуць, што ўвага да зняволеннага прама прапарцыйна колькасці злачынстваў, якія ён учыніў.


Якія яшчэ істоты, акрамя людзей, могуць шанаваць тое, што пагражае іх уласна-му жыццю? Табе не здаецца, што чалавецтва падобна на ракавую пухліну?
Ты, напэўна, ганарышся тым, што змагаўся разам з імі супраць мяне?


Я ніколі не лічыў іх **ідэальнымі**, Эрык... Але яны заслужылі права на жыццё.


Так, канешне.
У гэтым пытанні мы прытрымліваемся **рознага меркавання**.


Цябе нармальна кормяць?
Я не адразу прывык есці пластыкавым відэльцам, але гэтыя бясчулыя ахоўнікі наўрад ці прынясуць мне **сталовае срэбра**.


Цябе ня крыўдзяць тут?
Я ж казаў, у культа асобы, да якога ўсе схільныя, ёсць свае плюсы.
Калі б мяне абвінавачвалі ў махлярстве, я жыў бы зараз як свіння. Але я забіў тысячы людзей, і цяпер мне аказваюць **каралеўскія ўшанаванні**.
MERRELL


Ведаеш, мне сказалі, што ў адной з такіх клетак трымаюць Халка. Я пакуль ня бачыў яго, але спадзяюся, мы зможам павіншаваць адзін аднаго паштоўкамі на Каляды.


Ох, Эрык. Сумна бачыць цябе такім.
Я так шкадую, што прыйшоў сюды.


Я шкадую аб гэтым, яшчэ больш, Чарльз.
Павер мне.

AAAOOO!

Ты ведаў, у пятнаццаці мілях адсюль ёсць добры рэстаран.

Што ты тут робіш?

Прыйшоў за рэваншам?


Не ўпэўнены, што нашу сутычку ў сакрэтным сховішчы Магнета можна назваць **бойняй**.
Я проста выпусціў свае **аптычныя промні**, і ты ўпаў як кегля.
Што ты сказаў? На тваю думку, я заслужыў невялікую лупцоўку?

А як ты ацэньваеш чалавека, які забівае свайго таварыша, каб атрымаць яго дзяўчыну?
Лічыш, ты атрымаў па **заслугах**?

Кожны сіняк і драпіну.

Але мяне здзіўляе, навошта ты прыйшоў сюды і пачаў варушыць старыя раны?
Табе не хапае таго, што ты **выштурхнуў** мяне з каманды? Навошта ты высочваеш мяне? Хочаш зноў адлупцаваць мяне?
Я прыйшоў не для гэтага, Расамаха.
Я прыйшоў, каб папрасіць прабачэння.


Ты **прадаўся** ім, Чарльз. Не, я не здзіўлены. Рана ці позна, гэта павінна было здарыцца.


Я бы назваў гэта кампрамісам дзеля выратавання жыццяў, Эрык.
Зразумела, але ты аддаў сваіх вучняў арганізацыі, якая зусім нядаўна **палявала** на іх.


Няўжо толькі я лічу гэты ўчынак **крывадушным**? Якая розніца між тваім Інстытутам і «Зброяй Ікс»?
Больш камфортныя ўмовы ўтрымлівання? Школьная форма?


Ты **жартуеш**.
Не, я размаўляю з табой, як са старым сябрам. Ты зрабіў **жудасную** памылку.
Я магу згадзіцца са спробай атрымаць доступ да **сакрэтаў** «Абароны», але ты зайшоў занадта **далёка**.


Ты не **зменіш** іх, Чарльз. **Запомні** мае словы. Ты проста даў сваім спонсарам яшчэ адну зброю, якую яны будуць выкарыстоўваць супраць **нас**.

Містар Леншэр.
Хачу нагадаць, пакуль вы яшчэ не зусім **разгаварыліся**, што мы тут **не адны**.













Я **летуценнік**, Эрык. Хачу, каб усё ў свеце было **правільна**. І я не супакоюся, пакуль мой лепшы сябар і яго паслядоўнікі не будуць **рэабілітаваны**.

Не забывай, я магу **чытаць** твае **думкі**. Я ведаю, што ты глыбока **нешчаслівы** чалавек. Ты пакутуеш з-за аддаленасці між табой і тваімі дзецьмі.

Ведаеш, яны чакаюць за дзвярамі. Ртуць хоча хоча наладзіць з табой зносіны. **Запрасіць** іх?

Што? Ты звар'яцеў? Я лічу Пунсовую ведзьму і Ртуць самымі вераломнымі істотамі на Зямлі.

Трэба было забіць іх дурную маці пад час родаў.

Я **ненавіджу** іх.

Разумею, ты лічыш іх **слабымі**? **Чалавекалюбнымі**? Яны здрадзілі табе, калі перайшлі на бок арміі?

**Сапраўды**, таму я і не хачу іх бачыць.


А мабыць, блізняты нагадваюць табе пра тваю старасць, з-за якой ты жаніўся на звычайнай жанчыне?




Лічу, табе ўжо час ісці, Чарльз.
У гэтым няма нічога **сарамлівага**, Эрык. Шлюб з чалавекам не адмяняе твае **здольнасці мутанта**.
Яна была выдатнай, разумнай жанчынай, і я не здзіўлюся, калі ты па-ранейшаму **кахаеш** яе.


Ты мяне **здзіўляеш**. Гэтыя малпы нават пахнуць інач. Наша біялагічная задача складаецца ў тым, каб **замяніць** іх.
**Ахова!**


Калі памятаеш, калісьці ў цябе была **іншая** «біялагічная задача».


Ты вярнуўся? Я спрабаваў забіць цябе, а ты просіш у мяне прабачэння? Аб чым ты шкадуеш, Цыклоп?
Я паводзіў сябе як **пячорны чалавек**, а не як лідар суперкаманды.


Калі я разважаю аб гэтым... Прафесар заснаваў школу, каб навучыць юных мутантаў выкарыстоўваць свае здольнасці, не ўчыняючы нікому шкоды.
Згода яго задуме, пасля заканчэння інстытута мы павінны стаць паслядоўнікамі яго мірных ідэй. Даказаць усім, што сталі **іншымі**.


І што ж я раблю, калі ў мяне ўзнікае канфлікт з іншым мутантам? Як я рэагую на тое, што іншы хлопец заляцаецца да маёй дзяўчыны?
Я **накідваюся** на яго!


Даволі **лагічна**.
І да чаго гэта прывяло, Расамаха? Самы небяспечны мутант на Зямлі хаваецца ў гарах, быццам дзікі звер.


Ты быў такім, калі мы ўпершыню цябе сустрэлі. Усё, чаго ты дасягнуў за гэты час, пайшло кату пад хвост.


Чаго ты хочаш, Цыклоп?


Я хачу, каб ты **вярнуўся** ў школу.


Ты зусім ляснуўся? Цябе даслаў Чарльз Ксаўе?
Разумею, мае пацыфічныя ідэі не **арыгінальны**. Але, мне здаецца, гэта ў тваіх жа інтарэсах далучыцца да нас.
Трэба **выкарыстаць гэты шанс**. Не хачу, каб мы закончылі так сама, як Ксаўе і Магнета.


А як жа іншыя? Яны будуць спаць з нажамі пад падушкай, калі я вярнуся.
Расамаха, мы хавалі нажы пад падушкай з таго моманту, як ты засяліўся ў маёнтку. І потым мы правялі галасаванне і прыйшлі да адінага рашэння.


Не, не, гэта ня **правільна**. Мне гэта не падабаецца. Хлопцы са «Зброі Ікс» знішчылі ўсё **добрае**, што было ў мяне, калі сцерлі маю памяць.
Цяпер я прагну толькі забіваць і разбураць. Ты ня хочаш, каб я вярнуўся ў каманду. Я - нядобры чалавек і ня годны быць адным з Людзей-Ікс.

Менавіта **таму** ты і павінны вярнуцца.

Паслухай... Прафесар абяцаў табе дапамагчы **ўспомніць мінулае**. І я хацеў паразмаўляць з табой наконт гэтага.

Ён звярнуўся ў «Абарону». Яны пацвердзілі, што «Зброя Ікс» знішчыла ўсе дакументы. Але нешта было прапушчана...








Заручальнае кольца?
**Тваё** заручальнае кольца, Расамаха. Супрацоўнікі «Абароны» знайшлі спасылкі на гэтае імя ў дакументах часоў Другой сусветнай вайны, якія яны атрымалі ад Капітана Амерыкі.
Не хачу цябе **абнадзейваць**, але гэта наш адзіны шанс высвятліць, кім ты быў да таго, як патрапіў у рукі да гэтых мяснікоў.


Жанаты?
Дзіўна. **Кім** была мая жана?


DEET DEET


Пойдзем, салдат.
Ёсць толькі **адзін спосаб** гэта высвятліць.




Ахова, я хачу, каб вы вывялі прафесара з маёй камеры. Спачатку ён цешыў мяне, але даволі хутка стаў раздражняць.
Разумею, я трохі расхваляваў цябе, Эрык. Але ў будучыні мы яшчэ зможам абмеркаваць гэтыя ідэі.


**Сапраўды.**
Ці не прыйшоў яшчэ час забыць пра гэтыя высакамоўныя гаворкі? Яны каго заўгодна пасадзяць на каня.
Менавіта.


Але нам прыйдзецца яшчэ раз сустрэцца. Я **рыхтуюся** абараняць цябе ў **судзе**.
Яны спрабуюць стварыць камітэт, каб распрацаваць асаблівы спосаб пакарання для людзей з суперздольнасцямі.
Сапраўды? Мне лісліваць, што яны марнуюць на гэта свой час і грошы.
Разумею.
Да пабачэння, сябра. Я буду на сувязі.


Ён амаль вярнуўся ў норму. Трохі кульгае, але ў яго моцны арганізм. І ў бліжэйшыя два-тры месяцы ён зноў устане на ногі.
Чаму ты спытаў?






Ты ня злы чалавек. З належнай падтрымкай ты дамогся б выбітных вынікаў.
Чаму ты вырашыў, што я адарвуся ад чытання лістоў у наступны раз, калі ты прыйдзеш?
Чаму ты вырашыў, што я наогул пагляджу ў твой бок.
MARK MILLAR


І яшчэ, Чарльз, пакуль ты не ўшоў...
Што?


Ртуць аправіўся пасля таго ранення, якое я яму нанес? Памятаеш, я прастраліў яму калені за тое, што ён зганьбіў гонар нашай сям'і?


**Проста так.**




У вас тут утульна, Магнета. Спадзяюся, вы тут на доўга.
Запхніся, Капітан Амерыка. Ты паўтараеш гэты жарт трохсоты раз, але я ніколі не **смяяўся** над ім.


MARK MILLAR
ADAM KUBERT
Дзякуй за дапамогу, спадары. Вы аказалі мне вялікую паслугу і, спадзяюся, **забудзеце** аб некаторых **выказваннях** Магнета.
Яны не маюць **ніякага значэння**, таму не варта пра іх **узгадваць**.
CHARLES XAVIER


Як вы разумееце, я ўжо **сцёр** усе вашы **запісы**.
CHARLES XAVIER


END

# NEW 52
# ЦУДА-ЖАНЧЫНА.
(DC, 2011)




**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**

**Azzarello, Chiang.** Богі ходзяць сярод нас. Толькі адна жанчына адважылася б абараняць чалавецтва ад гневу такіх дзіўных і магутных сілаў. Але яна адна з нас ці адна з іх? Новая эра пачынаецца для амазонскай прынцэсы Цуда-Жанчыны пад аўтарствам Брайана Азарэла і Кліфа Чанга.












# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

(MARVEL, 2015)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.** Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго няздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.












ТОМ 1.

# ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ

(IDW PUBLISHING, 2011)





**Teenage mutant ninja turtles. TPB 1 (#1-4). Change is Constant**
**(c) Kevin Eastman, Tom Waltz, Dan Duncan**
**(c) IDW Publishing, 2012**
**Чарапашкі-нінзя. Том 1 (№1-4). Змены гэта сталасць**
**Пераклад на беларускую мову - Сяргей Козыраў, 2012**
**ComicsBY, Гомель, 2022**
**Другая рэдакцыя**

Чарапашкі-нінзя вяртаюцца ў коміксы ў сваёй першай прыгодзе IDW! Для Чарапашак гэта іншы свет... Група падзелена: Рафаэль блукае па вуліцах Нью-Ёрка ў пошуках ежы і сховішча, а яго браты і майстар Сплінтар займаюцца пошукамі згубленага брата, але пакуль усё, што яны могуць знайсці, гэта непрыемнасці ў выглядзе валачашчага ката-мутанта Старога Нячысціка і яго банды злачынцаў!
Далучайцеся да Тома Вальца, Дэна Данкана і аднаго са стваральнікаў TMNT Кевіна Істмана, каб пачаць дзікае падарожжа!



**Kevin Eastman**



**Tom Waltz**

# СТАНЬ ЧАСТКАЙ НАШАЙ СУПОЛЬНАСЦІ НА PATREON

www.patreon.com/comicsby

Твой удзел дапаможа нам праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў на patreon:

### Чытач

**1 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Калі ты сапраўдны **ЧЫТАЧ**. Даступны нашы рэлізы на месяц раней, чым у сацыяльных сетках і артыкулы пра коміксы і іх герояў.

- На 1 месяц раней, чым усе
- Артыкулы

### Афіцыйны патрон

**3 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Цяпер **АФІЦЫЙНЫ ПАТРОН** атрымлівае спасылку на **рэліз новых серый на 1 год раней**, чым падпісчыкі сацыяльных сетак. Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «**Цуда-жанчына**», «**Дарт Вэйдар**», «**Вядзьмар**», «**Чорны молат**», «**Дэпартамент праўды**» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці афіцыйных патронаў. Таксама афіцыйным патронам даступны «Дзённік перакладчыка» і «Планы».

- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

### Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**
ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

**ПАТРОН З ПАДПІСКАЙ ПРЭМІУМ** атрымлівае ўсё тое, што і Афіцыйныя патроны, але... Для патронаў з падпіскай прэміум мы плануем публікацыю эксклюзіўных матэрыялаў.

- Эксклюзіўныя матэрыялы
- На 1 год раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў
- На 1 месяц раней, чым усе
- «Дзённік перакладчыка», «Планы»
- Артыкулы

## Нашы мэты:

**100 патронаў** -
мы наймем перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
мы створым выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
наша выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.